# Яшчэ аб зьдзеках зь беларускае мовы

У папярэднім (3-ім) нумары нашае газэты мы перадрукавалі артыкул студэнта Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску Барыса Сачанкі п. н. «Шанаваць родную мову», які быў зьмешчаны ў менскай газэце «Літаратура і Мастацтва» (№ 99 за 14 сьнежня 1957 г.). Загаловак гэнага артыкулу мы зьмянілі на «Зьдзекі зь беларускай мовы», што больш адказвала зьместу артыкулу. У ўмовах шалёнае русыфікацыі ўсё-ж бесьпячней палажыць галоўны націск на сьцьверджаньне ейнае наяўнасьці, чымся на наважанае яе асуджэньне або хоць-бы на патрэбу абароны перад ёю.

Тым ня меней у артыкуле Сачанкі вычувалася, хоць і прымаскавана, гэтае асуджэньне й горкае расчараваньне зь «вялізарных дасягненьняў» леніскай нацыянальнай палітыкі й з «адзіна правільнага разьвязаньня нацыянальнага пытаньня» ў Савецкім Саюзе. Што факты, пададзеныя Сачанкам, не адзіночныя, і што ў Беларусі ёсьць многа такіх Сачанкаў, сьветчыць, між іншым, № 3 «Літаратуры і Мастацтва» за 8 студзеня сёлета. У гэтым нумары ў рубрыцы «З рэдакцыйнай пошты» мы ўзноў знаходзім той-жа загаловак «Шанаваць родную мову», а пад ім водклікі іншых студэнтаў і настаўнікаў на артыкул Сачанкі. У іхных выказваньнях мы знаходзім мноства не адзіночных і прыпадковых, але агульных і тыповых фактаў аб тым, якое спусташэньне рабіў і робіць расейскі бальшавізм у галіне беларускае нацыянальнае культуры й мовы. Таму зь некаторымі скарачэньнямі зьмяшчаем ніжэй успомненыя выказваньні, што дасьць магчымасьць нашым чытачом уявіць, якую праступную работу праводзіць у нашай Бацькаўшчыне расейскі бальшавізм.

⁕

І вось студэнт Менскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікуму В. Голуб, між іншым, піша:

«Родная мова для нас — беларуская. Але як гэта ні дзіўна, яна займае мала месца ў сучасны момант у нашым культурным жыцьці.

У Менску (у арыгінале, пэўне-ж, «у Мінску» — Рэд.) зараз працуюць 58 сярэдніх школ. Зь іх толькі дзесяць — беларускія. Ды хіба толькі ў Менску такое становішча? Прыкладна тое-ж назіраецца ў Гомелі, Берасьці, Магілёве і іншых гарадох...

Менскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум рыхтуе тэхнікаў-будаўнікоў. Пераважная большасьць выпускнікоў гэтага тэхнікуму працуе на Беларусі. Гавараць за чатыры гады яны амаль што развучыліся. На будоўлях рабочыя ў асноўным гавораць пабеларуску. Атрымліваецца, калі чалавек — які-небудзь там начальнік, дык ён амаль не карыстаецца беларускай мовай.

Не да гонару студыі «Беларусьфільм», што фільмы яе гучаць не пабеларуску, а Акадэміі Навук тое, што такія кнігі, як «Гісторыя БССР», «Гісторыя Менску», «Беларускае мастацтва», выпушчаныя ў сьвет у першую чаргу на расейскай мове або навет толькі на расейскай...

У Беларусі беларуская мова павінна заняць належнае месца. Больш увагі трэба ўдзяляць вывучэньню яе ў нашых сярэдніх школах, тэхнікумах, інстытутах».

⁕

А вось словы настаўніка Валейкаўскай школы Смаргоньскага раёну М. Прашковіча:

«Прачытаў я артыкул Б. Сачанкі «Шанаваць родную мову». Ён мяне вельмі ўсхваляваў. Сапраўды, у нашых школах большасьць выкладчыкаў гісторыі, матэматыкі і іншых прадметаў зусім ня лічацца з тым, што школа беларуская. Таму вучні заканчваюць школу і ня ведаюць добра ні роднай мовы, ні расейскай. Чаму гэта так? Б. Сачанка правільна піша, што ў нашых вышэйшых навучальных установах цяжка пачуць роднае слова. А звычайна пра ўнівэрсытэт гавораць і пішуць, што гэта «кузьня нацыянальных кадраў».

Я ў мінулым годзе скончыў беларускае аддзяленьне нашага ўнівэрсытэту. Лекцыі народнай мове слухаў толькі на беларускай мове і літаратуры. І я цяпер вельмі радаваўся-б за тых, хто там вучыцца, калі-б яны слухалі і іншыя дысцыпліны на роднай мове».

⁕

Ува ўсей шырыні ставіць гэтае пытаньне й студэнт 5-га курсу філялягічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту В. Чамярыцкі. Ён піша:

«Думкі, выказаныя ў артыкуле Б. Сачанкі «Шанаваць родную мову», датычацца ўсёй нашай грамадзкасьці і ў першую чаргу інтэлігенцыі. Гэтыя думкі можна пацьвердзіць мноствам прыкладаў.

Мой таварыш, настаўнік К., пасьля заканчэньня БДУ выкладае хімію парасейску. Ён тлумачыць:

— Гэта табе ня літаратура ці гісторыя: тэрміналёгія заядае. У ўнівэрсытэце мы вучыліся толькі па рускіх кніжках...

Сапраўды, чалавек скончыў беларускую школу. Потым перавучваўся, як паступаў у ўнівэрсытэт, закончыў, працуе ў беларускай школе — зноў трэба перавучвацца.

Такая-ж зьява наглядаецца і на фізыка-матэматычным, і на біялягічным, і на гістарычным, і на іншых факультэтах нашага ўнівэрсытэту. Не абмінула яна й філялягічны. Як правільна адзначыў Б. Сачанка, на нашым факультэце, які рыхтуе кадры толькі для Беларусі, усе дысцыпліны, акрамя «беларускіх» (мова, літаратура, фальклёр, дыялекталёгія), чытаюцца на расейскай мове. Добрых 90 працэнтаў мастацкай і вучэбнай літаратуры, якую трэба перачытаць студэнту за год, выдадзена на расейскай мове.

І вось вынік. Студэнты нашага аддзяленьня не валодаюць добра беларускай мовай. Гэта асабліва ярка выявілася ў час пэдагагічнай практыкі ў школе.

Многія сдудэнты пазьбягалі даваць лекцыі (у арыгінале «урокі» — Рэд.) на роднай мове. І сапраўды, было-б сорамна сядзець на некаторых беларускіх лекцыях: столькі небеларускіх выразаў, столькі небеларускіх слоў. Адным словам, нейкі расейска-беларускі дыялект.

Правільна кажуць нашы выпускнікі, што ў сэньсе практычнага валоданьня беларускай мовай у ўнівэрсытэце яны нічога не атрымалі, а, наадварот, больш забыліся, чым навучыліся. А гэтак-жа абстаіць справа зь беларускай мовай і ў іншых ВНУ рэспублікі.

Даўно насьпела пытаньне — выкладаць беларускую мову ўва ўсіх навучальных установах рэспублікі.

Толькі тады, калі мы пачуем жывую беларускую мову з вуснаў выкладчыка і прадаўца, сакратаркі і інжынера, дырэктара заводу і міністра, калі мы знойдзем яе ў заявах і ў пратаколах судовых працэсаў, на старонках навуковых прац — толькі тады беларуская мова зойме належнае месца ў жыцьці.

Кажная нацыя можа разьвіваць сваю духовую і матарыяльную культуру толькі на сваёй роднай мове — так гаворыць марксізм. Ня ведаючы і не шануючы яе, нельга ведаць і любіць пасапраўднаму іншыя мовы».

⁕

Выкладчык беларускай мовы Майскай сямігадовай школы Крупскага раёну К. Санько піша:

«У артыкуле Б. Сачанкі «Шанаваць родную мову» ўзьнята важнае пытаньне. Прывяду некалькі прыкладаў з жыцьця свайго раёну.

У нашым раёне налічваецца 79 школ зь беларускай мовай навучаньня, дзе працуе вялікая армія настаўнікаў зь сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Аднак пераважная частка настаўнікаў лекцыі (апроч беларускай мовы) праводзіць на расейскай мове. Кіраўнікі школ і аддзелу народнай асьветы часта наведваюць

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Гісторыя абвінавачвае

(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)

Бальшавіцкая прапаганда ўжо ўсёй парай пачала наступ на савецкіх грамадзян у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Савет СССР, якія адбудуцца 16 сакавіка. Што такое Вярхоўны Савет — гаварыць нашым слухачом не даводзіцца. Ён ня вытрымоўвае ніякага параўнаньня з парлямантам у дэмакратычнай краіне, бо ня толькі ня мае ўплыву, але й ніякага кантролю над дзеяньнямі ўраду, ці лепш сказаць — партыйнай верхавіны. У гэтым выпадку можна прывесьці нашу народную прыказку: «якое дрэва, такі й клін, які бацька, такі й сын...» Інакш кажучы — калі выбары фікцыя, дык такая-ж фікцыя й парлямант. У Савецкім Саюзе выбараў ня было й няма — ёсьць толькі здаваньне галасоў за вызначаных партыяй кандыдатаў.

Прапаганда барабаніць нам, што Вярхоўны Савет і саветы наагул — найбольш дэмакратычнае прадстаўніцтва народных масаў Савецкага Саюзу. Але-ж разьбярэмся толкам: хопіць толькі заглянуць у гісторыю, глянуць, як гэтая «ўлада саветаў» заводзілася ў цяперашняй бальшавіцкай імпэрыі, каб перакanaцца аб усім хвальшы гэтай прапаганды.

Што-ж рабілася у 1917 годзе на Беларусі? Даведаўшыся аб бальшавіцкім перавароце ў Петраградзе, Менскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў абвесьціў 26 кастрычніка аб пераняцьці ўлады ў свае рукі. Гэты савет, як адкрыта прызнаюцца самі бальшавікі, беларускім прадстаўніцтвам ня быў. У вадказ на гэтую заяву, Вялікая Беларуская Рада выдала Грамату да беларускага народу, у якой заклікала змагацца супраць бальшавікоў у вабароне, — як там гаварылася, — вольнасьцяў і правоў беларускага народу.

Цяпер дамо слова самым бальшавіком. У Вялікай Савецкай энцыкляпэдыі, том 4, бачыны 486—487, чытаем:

«Контррэвалюцыйная Беларуская Рада, вакол якое задзіночыліся ўсе рэакцыйныя й буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты, маскуючыся хвальшывым нацыянальным сьцягам, склікала ў сьнежані 1917 году свой гэтак званы Ўсебеларускі Кангрэс з мэтай адарваць Беларусь ад Савецкай Расеі, захапіць уладу ў свае рукі і аднавіць у Беларусі капіталістычны лад. На загад Савету народных камісараў Заходняй вобласьці, выконваючы волю працоўных масаў Беларусі, Усебеларускі Кангрэс быў **разагнаны».**

Гэтак гавораць бальшавікі. А як было ў запраўднасьці?

Вялікая Беларуская Рада, якая задзіночвала ўсе беларускія й вайсковыя арганізацыі, запраўды падрыхтавала й склікала на самай шырокай дэмакратычнай базе Ўсебеларускі Кангрэс, які сабраўся 18 сьнежня 1917 году ў Менску. На Кангрэс зьехалася 1872 дэлегаты з усяе этнаграфічнае Беларусі. Самі бальшавікі яшчэ ў 1929 годзе называлі яго беларускім Устаноўчым Сходам. І гэта правільна, калі ўзяць на ўвагу, што дэлегаты яго рэпрэзэнтавалі ўсе сацыяльныя пласты й палітычныя плыні беларускага народу.

У расейскім Устаноўчым Сходзе, які сабраўся ў студзені 1918 году, ды які таксама быў разагнаны бальшавікамі, на 690 дэлегатаў было 175 бальшавікоў, ці каля 25% агульнага ліку. А на 1872 дэлегаты Ўсебеларускага Кангрэсу было ўсяго 10 бальшавікоў, інакш кажучы — 0,6% агульнага ліку!

Усебеларускі Кангрэс адкінуў бальшавіцкія саветы ды прыняў пастанову аб утварэньні дэмакратычнай рэспублікі. Тады бальшавікі, уначы з 30 на 31 сьнежня, збройнай сілай разагналі Кангрэс, чаго яны й не хаваюць. Але яны прамоўчваюць далейшы ход падзеяў. Вось-жа, удзень 31 сьнежня, дэлегаты Кангрэсу сабраліся зноў ў Менскім чыгуначным дэпо, і пад збройнай аховай менскіх чыгуначнікаў выбралі Раду Кангрэсу, перадаўшы ёй паўнамоцтвы зьдзейсьніць пастановы Ўсебеларускага Кангрэсу. Гэтак Рада ведамай III Устаўной Граматай 25 сакавіка 1918 году абвесьціла Беларусь незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікай. У ёй усім грамадзянам — незалежна ад роду, нацыянальнасьці й веравызнаньня — забясьпечвалася свабода слова, друку, сходаў, забастовак, недатыкальнасьць асобы й памешканьня, і г. д. Акрамя таго, роўнае, беспасярэдняе, тайнае й прапарцыянальнае выбарчае права для ўсіх грамадзянаў бяз розьніцы палітычных перакананьняў забясьпечвала ў Беларускай Народнай Рэспубліцы запраўдную дэмакратыю.

Здушыўшы сілай волю беларускага народу, бальшавікі ўжо каторы раз арганізуюць пародыю выбараў у Вярхоўны Савет — пародыю, у якой прымушаныя браць удзел і Беларусы. Але беларускі народ ужо сорак гадоў таму сказаў, які лад ён хоча мець на сваёй бацькаўшчыне, і ён далей імкнецца да запраўднай дэмакратыі. Гісторыя-ж ужо выставіла бальшавіком свой акт абвінавачаньня.

# Рэнэгацкае цюгаканьне

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

скімі нацыяналістымі, то ці можам мы адмаўляць іншым людзям у іхным нармальным імкненьні захоўваць свой твар, быць польскімі ці грузінскімі або армянскімі нацыяналістымі?», а далей: «. . на прыкладзе той-жа Польшчы можна бачыць, што нацыяналізм — гэта адзіная сіла, здольная супрацьставіцца камунізму...»

З гэтага яшчэ ня вынікае, што М. Корякоў супраць фэдэрацыі, аднак з нацыяналістымі гэтакіх здаровых паглядаў можна дыскутаваць і справу свабоднае фэдэрацыі ў будучыні.

А наагул яшчэ раз ды ўжо каторы да ведама ўсялякага роду адзінанедзялімцаў, гэтак званых непрадрашэнцаў ды іхных няўдалых падпявалаў: годзі чмуліць абрыдала! Ніхто нідзе й ніколі зь Беларусаў ня зьбіраўся й ня зьбіраецца «дзяліць» Расею, ня быў і ня ёсьць ворагам Расейцаў, як народу, але ніхто ніколі не пагодзіцца, каб у беларускай хаце гаспадарылі суседзі, хто-б яны ня былі. З гэтым наш народ ад веку змагаўся й змагацца не перастане, аж пакуль ня выжане няпрошаных гасьцей. Гэта ягонае законнае права.

Рэнэгацкія абліваньні памыямі іншых нацыянальных сьвятасьцяў яшчэ больш спрычыняцца да ўзьняцьця нацыянальнага духу ў імкненьні беларускага народу да свабоды.

У гэтым ходаньні ня трэба адно забывацца, што падобныя выпады ня першыя й не апошнія. З гэтым трэба лічыцца, заўсёды мець наўвеце ды выяўляць іхную бязглуздасьць і шкоднасьць навет тым, перад кім іхныя аўтары стараюцца выслужыцца.

**А. Сьвіслацкі**

# Творы Максіма Багдановіча 18)

### ЛІСТ ДА ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Хоць значыць гэтае несьці ў Атэны совы, —
Усё-ж такі пішу да Вас, Вацлаве, словы
Нясьмелага ліста.
Даўно ўжо зьнікнуў дзень,
Ужо стаўні замкнуты, гарыць агонь, і цень
Ад галавы мае із сьценкі мне ківае;
У чорных рамках там сувора выглядае
Пісьменьнікаў чарга; зь іх кажны — блізкі друг,
Хоць і нябачаны увочы. Сьветлы круг
Над імі кінула газьніца. Пазіраю
Я часам на яго, а там ізноў да краю
Стала даводзіцца сьхіліцца і пачаць
На белым аркушы далей ліста пісаць.
Аб драмах Пушкіна кажу я ў ім. Ня Мэры,
Ня Фаўст, ня цар-Барыс, а Моцарт і Сальеры
Варушаць мозаг мой. Здаецца мне, што тут
Сальеры атрымаў несправядлівы суд.
Халодным розумам праняўшыся, натхненьне
Ён мусіў тым губіць, — так кажа абвіненьне.
Сальеры ў творчасьці усё хацеў пазнаць,
У ўсім дапэўніцца, усё абмеркаваць,
Абдумаць спосабы, і матар'ял, і мэту,
І горача любіў сваю сьвядомасьць гэту.
У творчасьці яго рaптоўнага няма:
Аснова да яе — спакойная дума.
Але, але... Аднак, што шкодзіць тут натхненьню?
Прыемнае дае Сальеры уражэньне.
Падобны зьнічцы ён: у іскрах над зямлёй
Яна ўзразае зморк лукою залатой,
Гарыць, бліскучая, уся ў вагні нясецца,
А ў глыбіні сваёй халоднай застаецца.
Уменьне да ігры Сальеры здабываў
Празь мерны, нудны труд; ці спраўды забіваў
Ён гэтым талент свой, як бачна з думак драмы?
Адкажа йскрыпка нам. Стакаты, фугі, гамы
Шмат год калісь на ёй Сальеры вывадзіў
І моцна граньнем тым іскрыпкі зык зьмяніў.
Ямчэй яна гудзіць. Пявучых згукаў сіла
Праз доўгія гады яе перарабіла,
І, тымі сьпевамі уся напаяна,
Навекі чулаю зрабілася яна.
Няўжо-ж душы жывой маглі-б так зыкі сьпеву
У Сальеры не зьмяніць. калі зьмянілі дрэва?
Не! Працай гэтаю сябе ён разьвіваў.
Сальеры — верны раб, каторы не схаваў
Свой талент у зямлю. Хай судны час настане, —
Спакойна Музе ён і проста ў вочы гляне,
І будзе за любоў да здольнасьці сваёй
Апраўдан Музаю і собскаю душой.
Таксама робіш ты, дума, і у паэта
Красьнейшым кажын твор. Прывет табе за гэта!
Прывет мой і табе, штодзённы рупны труд, —
Гатуеш радасьць ты ад творчасьці мінут.
Табе прывет нясу, ласкавая Камэна, —
Натхненьнем упаіў нас ключ твой Гіпакрэна.
Прывет да здольнасьці пяе душа мая,
І, вершы, вам прывет складаю ўрэшце я.
Александрыйскі верш! Ты ціхі, як Эрэбус,
Хаваючы агонь пад сьнегам. Хто in rebus
Musarum знаецца, ня можа ня любіць
Твае паважнасьці. Таму вось аднавіць
Хацелася табой мне звычай прызабыты
Эпісталы пісаць. Ну, а цяпер спачні ты.

### КРЫТЫКУ
### (ТРЫЯЛЕТ)

Чэліні статуй не рабіў,
А толькі статуэткі,
А ўсё-ж артысты шчыры быў.
Чэліні статуй не рабіў, —
Ты чуеш, крытык едкі:
Дарма ты трыялет ганьбіў —
Чэліні статуй не рабіў,
А толькі статуэткі.

### 1914
### САНЭТ

Прынадна вочы зьзяюць да мяне;
Чароўна усьміхаючыся, губы
Адкрылі буйныя бялеючыя зубы...
Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне

Кроў к сэрцу маяму. Мана ўсё або не?
Ці верыць мілым абяцанкам любы?
Мо гэты жар, палаючы для згубы,
Хавае сьцюжу пад сабой на дне?

Так, іншы раз, над соннаю зямлёю
Агністаю дугою залатою
Празрэжа цемень яркі мэтэор.

Гарыць ён, іскры сыпе і нясецца,
Бліскаючы мацней за ясных зор, —
А ў глыбіні халодным застаецца.

### ПАНУ АНТОНУ НАВІНЕ НА СПАМІН АД АЎТАРА *)

Дзень добры, Пане! Вось Вам просты надпіс:
Ёсьць гэткая японская забаўка, —
Кідаюць дробныя аськёпкі дрэва
У ваду — і робіцца яны квятамі.
Усе гэта мне згадалася міжволі,
Калі чытаў я Вашую стацьцю
Аб вершыках «Вянка». І шлю падзяку
І цісну руку. Ваш М. Багдановіч.

*) Прысьвячэньне на паасобніку «Вянка».

**Карэспандэнцыя з Польшчы**

# Гэтак мучыцца беларускі народ...

**АД РЭДАКЦЫІ: Ніжэй зьмешчаную карэспандэнцыю мы атрымалі з Польшчы. Ейны аўтар падпісаны псэўдонімам Франук Маркотны, але ягонае запраўднае прозьвішча Рэдакцыі добра ведамае. Як выглядае з карэспандэнцыі, аўтар яе меў магчымасьць пабываць у некаторых раёнах Беларусі й прыглядзіцца да гаротнага жыцьця нашага народу. У праўдзівасьці аўтаравых інфармацыяў ніяк нельга сумлявацца, бо амаль усе факты, прыведзеныя ў карэспандэнцыі, можна лёгка вычытаць між радкоў беларускай савецкай прэсы, а аб шалёнай русыфікацыі, аб якой гаворыцца ў карэспандэнцыі, беларуская савецкая прэса сяньня піша адкрыта.**

⁎

Летам гэтага году (1957 — Рэд.), у часе жніва, давялося мне бліжэй спаткацца й прыглядзецца да цяжкога й гаротнага жыцьця беларускай вёскі ў Барысаўшчыне. Як правіла, усе сяляне апынуліся ў калгасах, аднак чуў, што ў недаступных балоцістых мясцовасьцях існуюць яшчэ дзе-ня-дзе апошнія магікане-аднаасобнікі, душаныя надмернымі падаткамі; лік іх, аднак, вельмі малы.

Вёска прыгнечаная цяжарам калгаснага жыцьця, ня толькі ўжо не пяе ніякіх песьняў (жніўныя й тыя забылася), але й стагнаць ня мае сіл. Галіта калгасьнікаў пераходзіць усялякія ўяўленьні. Із зьведаных мной чатырох калгасаў — два даставалі па 2 кіляграмы збожжа на працадзень, адзін — 1,5 кілягграма, а адзін усяго 800 грамаў.

Дзеці, як правіла, абдзёртыя, слаба аджыўленыя.

Будынкі нічуць не зьмяніліся ні ў сэньсе гігіянічным ні з выгляду: будуюцца па форме з царскіх часоў, з той толькі розьніцай, што зь недахопу саломы, мала можна сустрэць стрэхаў крытых саломай, іх крыюць пераважна драніцамі. Новых хат будуецца адносна мала.

Будучы ў калгасе, зьвярнуўся да ранейшага пазнанага калгасьніка з запытаньнем — як ён жыве.

— Добра — адказаў калгасьнік.

Калі я зьдзівіўся, як можна добра жыць, зарабляючы 800 грамаў збожжа, ён адказаў:

— Крыху заробіш, крыху прыкрадзеш і неяк жывецца.

— Колькі-ж можна ўкрасьці? — папытаўся я.

— Часам паўкіляграма, часам кіляграм, а як тры — то сьвята ў хаце.

— А што будзе, як зловяць?

— Пяць гадоў, — спакойна адказаў селянін. Гэта значыць, калі знойдуць кіляграм крадзенага збожжа, ён дастае пяць гадоў турмы.

На маё пытаньне, чаму ён не паедзе ў недалёкі Барысаў, дзе можна дастаць такую-сякую працу пры прыватных будовах і лепш-бы зарабіў, ён адказаў:

— Калгасьніку можна паехаць у горад, але ніяк не на жыхарства, бо не зарэгіструюць у горадзе. І вось прыходзіцца жыць у гэтай галіце, — закончыў мой размоўца.

Жніво было ў поўным разгары, аднак я мала бачыў жнівярак і зусім ня бачыў камбайнаў. Жанчыны, сагнуўшы хрыбет, жалі так, як сорак год назад, звычайнымі сярпамі, толькі без традыцыйных беларускіх жніўных песьняў. Як выясьнілі пасьля калгасьнікі, не аплачваецца жніво машынамі, а камбайны марнуюць шмат збожжа.

Але найбольш жудкую зьяву калгаснага жыцьця давялося мне бачыць сьпярша з вакна вагону, а пасьля і ў беспасярэдняй блізкасьці — гэта касьба іржышча. У сувязі з тым, што ўраджаі з году ў год зьменшваюцца, калгасы стараюцца павялічыць жывёлагадоўлю. Дзеля гэтага калгасьнікам мала даецца, а то й зусім не даецца корму для індывідуальнай гадоўлі. Каб зарадзіць бядзе і пратрымаць собскую карову, калгасьнікі косяць іржышча, сушаць яго, а пасьля перарабляюць на сечку. Бульбянік таксама не марнуецца, яго старанна зьбіраюць, мыюць, сушаць і робяць зь яго сечку. Кароў кормяць таксама конскімі экскрэмэнтамі, якія ў дадатак трэба ўкрасьці з калгаснае канюшні, зьмяшаўшы іх із сечкай або картафлянікам ды акрасіўшы бульбай.

Трагэдыяй калгасьнікаў зьяўляецца адлічаньне працаднёў у ліку 4, за адзін апушчаны дзень працы. Дзеля гэтага, каб не апушчаць працаднёў у калгасе, некаторыя косяць іржышча ўночы.

Давялося пабываць і ў саўгасе. Парабкі саўгасных фэрмаў жывуць мізэрна, амаль на вэгэтацыі. Сярэдні заработак ад 150 да 300 рублёў. Украсьці ў саўгасе цяжэй і дзеля таго там жывецца яшчэ горш.

Галіта давяла вёску да агульнай дэмаралізацыі. Каб утрымацца пры жыцьці — крадуць усе, нат малыя дзеці. Прышлося мне бачыць самому, як везьлі калгасную канюшыну й дзеці падскаквалі да ваза, вырывалі жменькі канюшыны й пасьля адносілі дадому.

Аб гарадох мала магу сказаць. Менск пекна адбудаваны, але надта мала чаго беларускага. Усюды чуецца толькі расейская гутарка, усе надпісы на ўрадавых установах і прадпрыемствах блізу вылучна на расейскай мове.

У вадным з большых беларускіх гарадоў бачыў на вуліцы вялікую дошку, на якой было напісана «Боевой орган комсомольской сатиры». Што было ў гэтай сатыры, апроч даносаў, асудзеце самі. Вось яна: «1) Бамбуль Эмма, народжаная ў 1933 г., нідзе не працуе, пражывае на Рабочай вуліцы й сыстэматычна займаецца спэкуляцыяй. 2) Вавула Фёдар Іванавіч, ходзіць па вуліцах, ловіць гусей і курэй, падсыпаючы як прынаду пшаніцу й ячмень. 3) П'яны Проваленка Пётр, 1938 году нар., рабочы стройтрэста 13, 14 чэрвеня затрыманы ў самаабслуговым магазыне за кражу» і г. д. Вось і сатыра, толькі што яна неяк больш падобная да даносаў.

Гавораць, што ў Саветах сацыяльная справядлівасьць. Аднак я яе там ня бачыў, а чуў толькі, што ў іх ёсьць дзьве клясы: адна ўверсе, якой нічога не бракуе й прадстаўнікі якое зарабляюць ад 10 тысяч да 20 тысяч рублёў у месяц, а другая — ўнізе, вялізарная сваёй колькасьцяй, што жыве на мяжы вэгэтацыі ды зьяўляецца гноем для першае.

Адносна культурна-нацыянальнага жыцьця Беларусаў, дык трэба сказаць, што тут вядзецца зьвярыная дэнацыяналізацыя Беларусаў. Царскі чыноўнік быў неяк на паверсе жыцьця, як пыл на яблыку, які мог быць змыты нат невялікім дажджом, а сяньняшняя савецкая адміністрацыя ўгрызлася ў нутро народу, як чарвяк у яблык і точыць жывы арганізм беларускага народу. Калі якая адзінка больш крыху нацыянальна сьведамая ці нацыянальна настроена ды яшчэ ў дадатак ужывае родную мову, дык цяпер ужо яе не хапаюць і ня ссылаюць у канцлягеры, але проста даюць ёй «камандзіроўку», г. зн. пераносяць на працу ў Казахстан, Сібір ці ў Архангельскую вобласьць.

Беларускія школы ў БССР, як сярэднія так і пачатковыя, знаходзяцца ў яўнай меншыні, ды й настаўнікі гэтых школаў сваім пастунаньнем дзейнічаюць парусыфікатарску, бо калі яшчэ лекцыі вядуцца на беларускай мове, або на

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Голас прыяцеля

Ад польскага паэты Е. Аўдыскага, вялікага прыяцеля Беларусаў, мы атрымалі ліст і верш, якія з прыемнасьцяй гэтта зьмяшчаем.

**Рэдакцыя**

Вельмі Паважаныя Браты Беларусы!

Вялікі падарунак, які быў для мяне гонарам, у выглядзе трох кніжак з дэдыкацыяй, кніжак выдатных беларускіх паэтаў, зьяўляецца для мяне й надалей узнагародай хутчэй незаслужанай.

Сорамна было-б мне дзякваць адно толькі абабітай фразай перад Вамі — за Вашае так добрае й прыязнае сэрца ў супольнай нядолі на выгнаньні — перад духам Вашага Несьмяротнага Каралевіча паэзіі, прыгаство думкі й слова якога будзіць у маім сэрцы так жывое рэха.

Гэта падзяка надта спозьненая. Цераз год зьявілася візія Янкі Купалы, і калі форма вершу нянадта дасканалая, каб перадаць тое, што адчуваю, прашу ня столькі мову польскую ганіць, колькі можа ня так вялікія здольнасьці аўтара. Мяне вельмі ўзрадавала-б. калі-б гэты верш быў надрукаваны ў «Бацькаўшчыне».

Хай нам Бог вызначыць месца ў братэрскай грамадзе вольных народаў.

З пашанай застаюся ўдзячны

**Ежы Аўдыскі**

## Królewicz Janko

Gdzie leśnych mchów poszycie,
Za miękki dywan służąc,
W świat snów prowadzi skrycie
Przez jodeł bramę dużą;

Gdzie muchomory czapką
Okryją mech sędziwy,
A pająk sprzęga łapką
Srebrzysty zmrok w przędziwo;

Gdzie trąca wiatr wierzeją
W obute brązem sosny,
Biel brzozy przyodzieją
Zatoczą krąg radosny.

Gdzie tonąc w złocie rogiem
Król puszczy stał opodal,
Trzęsąca siana stogiem
Bielała w cieniu broda;

Gdzie czuwa łoś na straży —
Wejść nocą w próg stuleci
Nikt obcy się nie waży;
Gdzie ognik błędny świeci;

Gdzie na rozstaju drogi
Czatują wilkołaki,
Kryjąc się w cień złowrogi —
Ja byłem w kraju takim!

. . . . . . . . .

O ziemio! Tul mocarnie,
Zmrokiem mnie okryj cichym,
Woń z sennych łąk nagarnij
I w kwiatów sącz kielichy.

By mglisty smutek rzewną
Powrócił ścieżką czasu
Po bajki o królewnach,
Żyjących w bieli lasów.

Gdzie w borów głąb, ustroniem
Na czele mknąc orszaku,
Białym królewicz koniem
Tratuje wilkołaka.

Purpurą płaszcz powiewa,
Iskrami zbroja ciska,
Tarczą osłania z lewa, —
I kopją grozi z bliska.

Sen jawą stać się musi.
Paproć w tą noc zakwita,
Królewicz BIAŁEJ RUSI
Powrócić ma z niebytu.

Wszak mówi nam podanie,
Polska Cię uzna cała.
Pamiętnym dniem zostanie
Twój dzień, Janko Kupała.

**Jerzy Awdyski**

Londyn, 23 Sierpień 1957.

# Яшчэ аб зьдзеках зь беларускае мовы

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

школы, бываюць на лекцыях, але на гэта не зьвяртаюць амаль ніякай увагі. Розныя парады, указаньні, дырэктывы настаўнікам даюцца, як правіла, на расейскай мове.

Я цалкам згодзен з аўтарам артыкулу й лічу, што беларуская мова павінна ўвайсьці ў паўсядзённы побыт усіх слаёў насельніцтва.

Узорам таму павінны служыць школы і калектывы настаўнікаў.

Беларуская мова не павінна адыходзіць на другі плян. Яна павінна быць сапраўды роднай.»

⁎

І напасьледак прывядзём словы настаўніцы Лучанскай сямігадовай школы Дунілавіцкага раёну М. Лось. Яна сьцьвярджае:

«Вельмі карысную размову пра культуру роднай мовы разгарнулі нашы газэты. Асабліва радуемся з гэтага поваду мы, настаўнікі. У размову павінны ўключыцца і зрабіць для сябе адпаведныя вывады ня толькі пісьменьнікі, але і работнікі радыё, кіно, тэатраў, тыя, у каго мы — настаўнікі і вучні — вучымся правільнаму вымаўленьню.

Я выкладаю беларускую мову ў сельскай школе. Прыяжджаючы ў Менск, стараюся наведаць тэатры, асабліва купалаўскі.

Ня так даўно я глядзела ў купалаўскім тэатры спэктакль па п'есе А. Каплера «Грозны год». Значнасьць падзей, адлюстраваных у творы, і асабліва вобраз Ул. І. Леніна ў выкананьні народнага артыста СССР П. Малчанава зрабілі на мяне вялікае ўражаньне.

Але разам з тым я была глыбока расчараваная тым, што ў тэатры, які зьяўляецца цэнтрам нацыянальнай культуры, не давялося пачуць правільнай літаратурнай беларускай мовы...

Калі карыстацца пяцібальнай сыстэмай ацэнкі «ведаў», то ўсім памянёным таварышам можна паставіць «двойку». Вучням мы зьніжаем ацэнкі за няправільнае вымаўленьне. Акцёры-ж, вядома — ня школьнікі, але і ім, як відаць, трэба вучыцца, а настаўнікам (рэжысёрам) неабходна іх вучыць і, калі патрэбна, зьніжаць «адзнакі»...

⁎

Пададзеныя беларускімі студэнтамі й настаўнікамі факты гавораць самі за сябе. Дык вось як выглядае ў практыцы славутая «адзінаправільная» і «адзінасправядлівая» бальшавіцкая нацыянальная палітыка

**ВЫКАНАЙ ГРАМАДЗКІ АБАВЯЗАК — ПАШЛІ СВОЙ ДАР САКАВІКА Ў КАСУ ФОНДУ БНР!**

### ЭМІГРАЦКАЯ ПЕСЬНЯ

Ёсьць на сьвеце такія бадзягі,
Што ня вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сьцягі
Караблёў акіянскага порту.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на сьвеце ня маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —
Аднаго яны моцна жадаюць:

Пабываць у краёх незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасьця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.

Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не расталіся-б мы з сваім краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.

І на вуліц пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рукавы,
Нам маячыць вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

### ЗА ГАЗЭТАЙ

Ты доўга сядзела за сталом
Нярухомая, скамянелая.
І чутна у цішы было,
Як стукае гадзіньнік мерна,
Як дробны дождж сячэ халодныя шыбы,
І як у капяжы бяжыць цурок вады.

А ты ўсё сядзела,
Хацела — і ня мела сіл
Адвесьці свае вочы
Ад чорнай рамкі ў газэце,
Прадоннай студні,
Ўшчэрць поўнай гора і сьлёз.

### МЯЖЫ

Кінь вокам на увесь абшар зямлі:
Вось хату шчытна абыйшлі
Парканы з гострымі цьвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом.
Глядзі — ў прасторах за сялом
Мяжамі
Падзелены на нівах каласы,
Ідуць канаўкі празь лясы,
І стопудовыя гранічныя каменьне
Сярод лугоў бяскрайных залеглі.
Шнуры штыкоў па ўсёй зямлі
Гараць, як дзікае хаценьне,
На гаспадарстваў рубяжы.
Глядзі: паўсюль мяжы.

Нязьмерны вольныя прасторы
Сьвятой зямлі, — а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век,
Хаваўся ў іх, як ліс у норы,
І жыў пужліва сам — адзін,
Дрыжачы, як лісьцё асін,
Злосьлівы, бессардэчны, хцівы,
Такі зрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы.

Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
Ў надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі
Стварыў усе багацьці на зямлі:
Правеў ён ськібы на ральлі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс,
А сам даўно сьляпы ад сьлёз
І ўжо забыўся аб ратунак.

Глядзі: па ўсёй зямлі сьвятой
Шырокай хваляй залатой
Бяз краю блішча збожжа мора,
Цьвітуць лагі, шумяць лясы...
Так многа ёсьць паўсюль багацьця і красы,
А людзі ніштацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

### 1915
### ВАРОНА Й ЧЫЖ
**(Байка)**

Прыгода гэтая ня так даўно была.
К чыжу (а сілы ён, як ведама, ня мае)
Варона прыступае:
«Скажы, ці я падобна да арла?»
І бачыць чыж — з вароню ня жарты,
А собскі хахалок чаго-небудзь ды варты.
— Зусім арол, — адказвае чыж
Вароне клятай з клёна.
«Ну, то-ж бо то! Глядзі-ж!»
З ласкаваю гразьбой пракракала варона
І паляцела стуль далей.
Ўсё тое бачачы, зьдзівіўся верабей:
«Браток! Ці-ж ты вачэй ня маеш —
Арлом варону называеш?»
Засараміўшыся, чыж так пачаў казаць:
— Я гэтым не зрабіў благога.
Дай Бог арла варонай не назваць;
Варону-ж каб арлом — нічога

**(Далей будзе)**

